᠎# ЗОЛАК

ОРГАН МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДУМКІ

ГОД I    ВІЛЬНЯ    СЬНЕЖАНЬ 1933    № 3

Centr. Biblioteka Mokslų Akademijos

## У 50-ыя ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ КАРЛА МАРКСА.

14-га сакавіка 1883 году памёр Карл Маркс, вялікі мысьліцель другой паловы XIX стагодзьдзя.

Блізкі супрацоўнік Маркса і асабісты яго прыяцель Фрыдрых Энгельс пісаў тады: нельга зьмерыць, што страцілі ў гэтым чалавеку пралетарыят і гістарычная навука. Як Дарвін абявіў закон разьвіцьця ў арганічнай прыродзе, гэтак Маркс абявіў закон разьвіцьця людзкой гісторыі. Яго імя будзе жыць ў цягу стагодзьдзяў...

Мінае ўжо 50 гадоў. Адлежнасьць часу дае нам змогу абектыўна падыйсьці да ацэнкі значэньня навуковай працы Маркса.

Асноўнаю рухаючай сілай гісторыі, паводле Маркса зьяўляецца той просты факт, што людзі перш за ўсё мусяць есьці, піць, адзявацца, мець памешканьне, а ўжо пасьля займацца мастацтвам, навукай, палітыкай. Спачатку ідзе выраб матарыяльных сродкаў выжывы, што зьяўляецца матарыяльнай базай існаваньня, а пасьля ўжо паўстае ідэалягічная надбудова - мастацтва, рэлігія, навука, права. Выраб матарыяльных сродкаў выжывы, а тым самым і эканамічнае становішча таго ці іншага народу, або эпохі, зьяўляецца асновай, па якой гісторыя тчэ свае ўзоры культурных і палітычных ўзаемаадносін.

Выходзячы з дапушчэньня, якое прыймалася за асноўны закон, што выраб матарыяльных сродкаў выжывы зьяўляецца галоўнай рухаючай сілай гістарычнага працэсу а з гэтуль паходзіць і ўся тэорыя эканамічнага матэрыялізму. Маркс асаблівую ўвагу зьвяртаў на тое, чым і як вырабляюцца сродкі выжывы - на прылады і спосабы вырабу.

Прылады вырабу ёсьць магутнай зброяй у руках чалавека,-ён можа вырабляць сабе сродкі выжывы. Аднак ня кожны іх мае. Ёсьць людзі |вагромністае мноства беднаты|, якія, каб здабыць сабе сродкі выжывы, змушаны ісьці ў найміты да тых,што маюць прылады вы-

рабу. З гэтуль узьнікае вызыск працы і ўлада чалавека над чалавекам. Уласьнікі прыладаў вырабу эксплёатуюць працу найміта ў той спосам, што нанятыя імі работнікі не атрымоўваюць поўнасьцю таго, што вырабляюць. Значная частка прадукту вырабу, як недаатрыманая работнікам плата за працу, застаецца у кішані прадпрыемцы. Гэта недаатрыманая работнікам плата за працу, за выключэньнем выдаткаў на ўтрыманьне прыладаў вырабу, стварае тую дадатковую вартасьць, якой па-свойму распараджаецца і карыстаецца прадпрыемец. Прыўласьніваньне дадатковай вартасьці, зыск, нажыва - галоўны стымул капіталістычнага прадпрыемства. З гэтуль вынікае што-раз большае награмаджваньне прыладаў вырабу і найлепшае іх удасканаленьне. З гэтуль - і канцэнтрацыя вырабу, індустрыялізацыя, росквіт буйных капіталістычных прадпрыемстваў.

Спасьцерагаючы разьвіцьцё вырабных адносін ў першай палове XIX ст., паступенную канцэнтрацыю вырабу ў буйныя капіталістычныя прадпрыемствы, Маркс прыйшоў да высноўку, які ён уважаў за асноўны закон разьвіцьця капіталізму, што з узрастаючай канцэнтрацыяй вырабу занепадаюць і зьнікаюць дробныя рамесьніцкія прадпрыемствы ў месьце і дробныя сялянскія гаспадаркі на вёсцы. З ростам і разьвіцьцём індустрыялізацыі фабрычна-заводзкага вырабу - адбываецца ўсеагульная пралетарызацыя. Рамесьнікі і сяляне, гэтыя дробныя капіталісты (бо ўладаюць дробнымі прыладамі вырабу) змушаны кідаць свае малыя нерэнтабільныя прадпрыемствы ды ісьці ў найміты да буйных капіталістаў. Павялічваюцца рады і так ужо вялікіх грамад пралетарыяту, людзей, якія апрача свае прыроднае сілы і здольнасьці да працы не ўладаюць ніякімі прыладамі вырабу.

З пашырэньнем і замацаваньнем капіталістычных адносін узьнікаюць вострыя сацыяльныя антаганізмы. З аднаго боку, адбываецца змаганьне паміж паасобнымі капіталістамі ды іх супалкамі на грунце ўзаемнае канкурэнцыі, што вядзе да бязладзьдзя ў арганізацыі вырабу, ўзьніку эканамічных крызысаў, якія сваім цяжарам гнятуць работнікаў, а з другога боку, адбываецца клясавае змаганьне паміж работнікамі і капіталістамі. Як вынік непрымірымасьці клясавых супярэчнасьцяў расьце і пашыраецца работніцкі рух. На гістарычнай сцэне стаяць проці сабе дзьве варожыя сілы: вялізарныя грамады пралетарыяту і нікляя лічба капіталістаў. Пралетарыяту належыць будучыня, бо капіталізм нядаўгавечны - ён занепадае, як заняпаў у свой час фэадалізм з усімі асаблівасьцямі свае моцы і вонкавага бляску. На зьмену капіталістычнае моцы прыдзе арганізаваны пралетарыят, які установіць калектыўную ўласнасьць на ўсе прылады вырабу. І распачнецца тады новая бачынка сусьветнай гісторыі...

Гэтак у асноўных рысах можна ўявіць сабе галоўны зьмест гістарычна-матэрыялістычнага навучаньня Маркса.

Лёгка заўважыць, што адзіным і запраўдным героем вялікай гістарычнай грамады зьяўляецца, паводле Маркса, пралетарыят, які быў у мінуўшчыне н і ш т о, затое ў будучыні — ў с ё. Толькі яму, калектыўнаму герою, самой гісторыяй прызначана зьдзейсьніць вялікае заданьне, і зьнішчыць спрадвечнае зло сацыяльнае няроўнасьці, і пабудаваць лад новага жыцьця, ува ўмовах якога ня будзе ўжо больш месца ані выыску працы, ані ўлады чалавека над чалавекам. У гэтым своеасаблівым мэсыянстве пралетарыяту, ў яго вялікім гістарычным прызначаньні,— крыніца патосу і вера ў перамогу. Таму нічога дзіўнага, што навучаньне Маркса знайшло сабе вялікую прыхільнасьць і шырокую распаўсюджанасьць якраз ў асяродзьдзі мястовага фабрычна-заводзкага пралетарыяту. Багромністы рух індустрыяльных работнікаў апошняга паўстагодзьдзя непасрэдна быў злучаны з імем Маркса. Найбольш пашыраная плынь сучаснага сацыялізму — марксізм, як тэорыя і практыка клясавага змаганьня пралетарыяту, чэрпае свае ідэалягічныя сокі ўсё з тэй-жа крыніцы — з гістарычна-матарыялістычнага навучаньня Карла Маркса.

Аднак, якая жорсткая насьмешка гісторыі! Трэба-ж было так здарыцца, што як-раз ува ўгодкі сьмерці Маркса, калі пралетарска-сацыялістычныя партыі ўрачыста шануюць памяць свайго вялікага настаўніка, ў Нямеччыне, ў краіне буйнага індустрыяльнага вырабу, ў роднай бацькаўшчыне Маркса, прыходзіць да ўлады партыя, якая абвяшчае рашучае змаганьне з марксызмам, жорстка прасьледуючы кожнага, хто называе сябе марксыстам. А з другога боку, на Ўсходзе Эўропы, дзе індустрыяльны выраб знаходзіцца яшчэ толькі ў зародку марксызм зьяўляецца пануючым навучаньнем, і, як узвышша зьдзейсьненьня тэорыі Маркса, нават існуе там дыктатура пралетарыяту.

Можна па рознаму ўзірацца на падзеі ў Нямеччыне і ў СССР, але адно трэба прызнаць, як прасты факт рэальнасьці — для ўсебаковага іх разгляду патрэбны іншы ключ, ня той, што дае нам Маркс. Ключ Маркса ўжо стары, іржавы, каб ім можна было поўнасьцю адчыніць дзьверы гісторыі.

Маркс памыляўся, калі уважаў, што з ростам індустрыялізацыі адбываецца ўсеагульная пралетарызацыя. Гэтае яго дапушчэньне не знайшло свайго пацьверджаньня ў цягу апошняга паўстагодзьдзя. Усьцяж моцна яшчэ тр маецца дробны ўласьнік прыладаў вырабу. Згэтуль — хістаньні ува ўсей тэарэтычнай будове марксызму. Як быць, што рабіць з гэтым дробным буржуем?— гэта есьць пытаньне ўсіх пытаньнеў сучаснага марксызму. Адны з іх, каб асягнуць новы грамадзкі лад, тасуюць насільства, як прыкладам бальшавікі ў СССР, а іншыя прапануюць выхаваўчы спосаб |—чакаць, што з гэтага будзе!|, як, прыкл., палітычная дэмакратыя у Эўропе. Але пры гэтым амаль ніхто не зьвяртае увагі на іншы бок справы — на выразнае азначаньне самога

паняцьця прыладаў вырабу а тым самым на азначэньня паняцьця капіталіста, дробнага ўласьніка прыладаў вырабу, на азначэньне паняцьця эканамічных адносін. Усё гэта ў большасьці пакуль-што ёсьць толькі словы, паняцьці, канкрэтна-рэчаісты зьмест якіх яшчэ не азначаны і не ўсталены ў марксычным навучаньні.

Яшчэ ў 1890 годзе Энгэльс пісаў да свайго прыяцеля Шмідта, што палітычная ўлада і законадаўства так сама ёсьць з анамічнымі магчымасьцямі, што палітыка ўплывае на эканоміку. А ў лісьце да Блеха ў тым-жа годзе выразна падкрэсьлі ваў, што нават філязофскія тэорыі і рэлігійныя пагляды уплываюць на ход гісторыі. Адзначаў прытэтым, што нічога няма абсалютнага, усё рэлятыўна. Таму нельга ўжываць словы Маркса аб гістарычным матэрыялізьме, як нейкую догму. Хто гэтак робіць, той адрываецца ад рэальнага жыцьця, і ўхіляецца ў імглістую абстракцыю, зводзіць словы Маркса у пустую фразу.

Успомнім яшчэ адзін ліст Энгэльса, напісаны ім 25 сьнежня 1894 году да Штаркэнбурга, у якім падаецца выклад паняцьця эканамічных адносін.– Перш за ўсё, гэта есьць спосаб, якім людзі вырабляюць сабе сродкі выжывы і выменьваюць, пакуль існуе падзел працы, прадукты свайго вырабу. Сюды ўваходзіць уся тэхніка вырабу і транспарту. Гэтая тэхніка вызначае спосаб абмену і разьмеркаваньня прадуктаў вырабу, як і самы падзел суспольства на клясы. На гэтыя працэсы ўплываюць таксама і географічная асяродзьдзе, старына мінуўшчыны, як і папярэднія ступені разьвіцьця, якія захоўваюцца ў традыцыі дадзенага народу. Энгэльс пры гэтым адзначае, што разьвіцьцё тэхнікі знаходзіцца ў залежнасьці ад становішча навукі, а разьвіцьцё апошняй – ад стану патрэбнасьці ў тэхніцы.

Як бачым з лістоў Энгэльса, ў паняцьце эканамічных адносін уваходзіць палітыка, права, філязофія, рэлігія, навука, тэхніка, прыродна-географічнае асяродзьдзе, гістарычная традыцыя |культурны быт|, адным словам – і матэрыяльная база і ідэалягічная надбудова. Што варты, пасьля гэтага, усе гутаркі аб гістарычным матэрыялізьме, калі ад матэрыялізму застаецца адно толькі слова бяз жаднага канкрэтнага зьместу.

Але значэньне Маркса палягае ня ў тым, што ён нібы-то абявіў закон разьвіцьця людзкой гісторыі, а учымсь іншым. Успомнім Плятона, Кампанэлу, Тамаша Мора ды іншых вялікіх мысьліцеляў, якія стварылі ўявы аб лепшай долі чалавецтва, стварылі ўтопіі. Маркс пайшоў іншым шляхам. Ён не тварыў ані ўтопій, ані прыгожых лятуценьняў. Не ў пачуцьцёвай лірыцы, а у логіцы фактаў міжлюдзкіх ўзаемаадносін шукаў ён прабоіны да лепшага жыцьця. Маркс ад утопіі перайшоў да навукі, распачаў навуковы досьлед і вывучэньне

людзкога успольства.

Для ацэнкі значэньня навуковай працы Маркса трэ мець на увазе дзьве рэчы: ф а к т ы  і  д а п у ш ч э н ь н і; з аднаго боку, сабраныя і ўсыстэматызаваныя факты сацыяльных ўзаемаадносін, а з другога – дапушчэньні і агульныя суджаньні. Там, дзе Маркс апісывае, сыстэматызуе і аналізуе факты, устанаўляе між імі прычынную залежнасьць, дзе ў сваіх суджаньнях апіраецца на факты, перад намі выступае вялікі аналітык і сыстэматык навуковага веданьня сацыяльнага працэсу. Але там, дзе пачынае ўагульняць факты, пры абмежаным іх веданьні, дзе пачынае будаваць с вае дапушчэньні і агульныя суджаньні, ён пакідае грунт рэальнасьці і ўхіляецца ў сацыяльную мэтафізыку, якая ня мае нічога супольнага з навукаю. Выпладам мэтафізычных суджаньняў зьяуляецца і г.зв. гістарычны матэрыялізм.

Як гэта ня дзіўна, але ў марксычнай літаратуры, асабліва сярод рясейскіх марксыстаў, аж да апошняга часу пераважае мэтафізыка над навукаю, догма над фактамі. У выніку гэтага – своеасабліваe сэктанства і варожасьць паміж паасобнымі плынямі сацыялізму, а ў практычнай дзейнасьці – расьпярушаньне сілаў вызвольнага руху працоўных грамад. Конча неабходны зварот да навукі!..

Нельга ўважаць, што марксызм ўжо збанкрутаваў і занепадае. Але нават і ў тым выпадку, калі-б гэтак сталася |ў гэтым напрамку, між іншым, разьвіваюцца падзеі|, дык ўсё-ж такі нельга зусім адкідаць марксызм, бо ён мае ў сабе элемэнты запраўднага навуковага веданьня, якія ніколі, нат і пры найгоршым ліхалецьці, ня страцяць свае вялікае каштоўнасьці. Трэба толькі іх выкрыць і выявіць, каб ўвясьці у сыстэму з навуковым веданьнем іншых сацыялістычных плыняў. Дзеля гэтага – не адкідаць, а вывучаць, каб ўспрыняць і ператварыць!

Узыходзе золак новых дзён, калі сацыялізм, прайшоўшы некалькі ступеняў свайго разьвіцьця,– ад утопіі да мэтафізыкі праз досьлед мільёнаў працоўных грамад,– перастане быць марксычным або народніцкім, а будзе ўзапраўдна навуковым, інтэгральна-сынтэтычным, унівэрсальным, агульналюдзкім. Няма сумніву, што і Карл Маркс, побач з іншымі вялікімі мысьліцелямі, займе пачэснае мейсца ў вялікім гмаху навуковага сацыялізму.

Т –г.

14.III.1933.

• • • • •

## АБ ПРЫЧЫНАХ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАЦЫЙ.

Праблема паняволеных нацый набірае што-раз большае гастраты і актуальнасьці. Аб гэтым яскрава сьведчыць рух фляманцкі, брэтонскі, каталёнскі, як і рух вялага сьвету каляніяльных народаў, ня кажучы ужо аб заўзятай барацьбе ў Кітаі і Індыі.

Мусіма прызнаць, што як панаваньне чалавека над чалавекам, у паасобку, гэтак і панаваньне адных груп людзей над другімі, вядзе сваё паходжаньне з шэрай мінуўшчыны і мае, як быццам, нейкі сталы характар, але гэта, аднак, яшчэ ня значыць, што падобны стан рэчаў павінен быць вечна. У гісторыі людзтва мы ня знойдзем ні аднаго выпадку, каб побач з насільствам, паняволеньнем не вялася і барацьба з апошнім. Нават больш таго. У гістарычным ходзе разьвіцьця цывілізацыі мы спасьцерагаем, што людзкасьць хоць і павольна, але стала вызваляецца ад спадчыны свайго заалягізму, ад пакусаў культываваньня нявольніцтва, павольна, але паступова набліжаецца да рэалізацыі у запраўднага гуманітарызму.

Да нашых часаў усе віды нявольніцтва зьвяліся, можна сказаць, амаль-што толькі да двух: эканамічнай залежнасьці бедных ад багатых, у нутры самых цівілізаваных народаў, і палітычнай, а разам з гэтым і эканамічнай, залежнасьці слабейшых народаў ад сільнейшых. Абодва гэтыя віды паняволеньня,– сацыяльнага і нацыянальнага,– маюць цесную сувязь і справа аднаго ня можа быць памысна вырашана бяз другога.

Але калі на змаганьне са злом эканамічнага паняволеньня ўжо ад даўжэйшага часу зьвернута асаблівая ўвага, шмат пакладзена энэргіі на арганізацыю сілаў працоўных для гэтага змаганьня, дык не такой шчасьлівай была праблема барацьбы са злом паняволеньня нацыянальнага. Працуючых, за выключэньнем паняволеных народаў, нацый вольных, а перадусім працоўных нацый панующых гэтая справа амаль-што зусім не абходзіла. Вельмі часта працоўныя панующых нацый ішлі |дый ідуць.| супольным фронтам з сваімі эксплеататарамі супроць інтарэсаў працуючых нацый паняволеных.

Гэткае паступаваньне працоўных нацый панующых можна вытлумачыць толькі поўным незнаёмствам з каляніяльнай праблемай, якая зьяўляецца шкоднай ня толькі працоўных нацый паняволеных, але так сама і панующых.

Узапраўдная сутнасьць каляніяльнага прыгнечаньня, якое зьяўляецца толькі адным з відаў нацыянальнага паняволеньня, звычайна прыкрываецца якімі-небудзь гучнымі лёзунгамі, як пашырэньне хрысьціянства, культурны мэсыянізм, палітычнае супакоеньне небясьпечна-бурлівых настрояў для людзтва тае ці іншае краіны, ды т.п. для апраўданьня адкрытага гвалту дужэйшых |хоць-бы часова!| нацый над слабейшымі

пабудованы розныя тэорыі неабходнасьці гэткага паступованьня, з усімі прэтэнзіямі на навуковасьць.

Адны з гэтых тэорый даводзяць, што для жыцьцяздатных нацый барацьба есьць неабходнай, бо калі-б ня было яе, дык сільныя народы пазбыліся-б свае жыцьцёвай энэргіі, заняпалі-бы. Такім чынам ў імя ўласнага існаваньня і працэсу жыцьцяздатнасьці нацыя павінна стала весьці барацьбу,-г.зн. весьці войны з іншымі нацыямі, з мэтай падпарадкаваньня іх.

Іншыя тэорыі маюць яшчэ больш шырокі пагляд на гэтую справу. Тут сустракаемся з канцэпцыяй, паводле якой барацьба паміж нацыямі павінна адбывацца бязупынна, каб дзякуючы гэтаму мог ўсьцяж адбывацца прыродны адбор. У працэсе барацьбы слабыя нацыі гінуць, а іх мейсца |ў палітычным, эканамічным і культурным жыцьці| заступаюць пераможцы. Працэс разьвіцьця людзкасьці, ў дадзеным выпадку, уважаецца за бязумоўную ўзаемную барацьбу нацый расаў. Пераможцамі стаюць найздаравейшыя, маўляў, і найздальнейшыя нацыі, бо яны валадаюць, ў параўнаньні з іншымі, вышэйшай сацыяльнай прадуктыўнасьцю. Гэта-ж самае зьяўляецца і засадай сучаснага нямецкага „расызму", трубадурам якога ёсьць гітлерызм.

Цяжка акрэсьліць, якая з гэтых „найздаравейшых і найздальнейшых" нацый есьць найболей „сацыяльна прадуктыўнай", бо амаль кожная нацыя уважае сябе такою. Так, прыкл., сярэдні англелец пераконаны, што цывілізацыйная здольнасьць яго нацыі ня мае сабе межаў, дый што падобнае здольнасьці ня можа мець ніводная іншая нацыя. Ня менш высокай думкі аб сабе ёсьць і іншыя нацыі, нат ня толькі эўрапэйскія.

Але якая ні была-б ўзапраўдная вартасьць ўсіх гэтых „найболей сацыяльна-прадуктыўных" нацый, трэба прызнаць за бяспрэчны факт неадоймнае права на існаваньне і разьвіцьцё за ўсімі народамі, бяз выключэньня. Існаваньне нацый ў ніякім выпадку ня можа быць сродкам для якіх небудзь мэтаў, а таму ня можа быць нацый ані горшых ані лепшых. Ня можа быць горшых і лепшых і ў адносінаньні да прагрэсу. Адна й тая самая нацыя пры пэўных умовах - будзе першаю паміж іншымі нацыямі, а пры другіх - апошняй. Справа поступу ёсьць залежнай ад разьвіцьця ўзаемаадносінаньняў як найбольшай |абсалютнай| колькасьці розных нацый, і ня ў кірунку ўзаемнага сябезьнішчаньня, але як найдалекасяглейшага с у п р а ц о ў н і ц т в а. Гэтае палажэньне характэрызуе нат такая думка-пагаворка, што французы даюць ідэю, немцы гэтую ідэю навукова угрунтоўваюць, амэрыканцы-ж знаходзяць для яе практычнае прыстасаваньне. Поступ ёсьць вынікам супольных зусільляў штонайшырэйшага кола народаў.

І калі ў імя поступу абсалютна непатрэбным есьць падбіваньне адных нацый |народаў| другімі, дык ня

менш непатрэбным яно ёсьць і для асягненьня матарыяльных карысьцяў. Як гэта ні парадаксальна, а калёніі для масы народу пануючых нацый ня толькі не даюць „зыску", але наадварот — прыносяць надзвычайныя шкоды як у сэнсе гаспадарчым, гэтак і маральным.

Яшчэ на пачатку нашага стагодзьдзя вядомы ангельскі грамадзкі дзеяч Гобсон даводзіў |гл. яго працу „Імпэрыялізм"| на падставе статыстычных дадзеных, што ўтрыманьне Англіяй колькасных яе калёніяў, някажучы ўжо аб самым здабыцьці іх, цалком ёсьць некарысным для ангельскага народу. Выдаткі на вагромністую флёту, якая неабходна для забясьпечаньня ўтрыманьня калёній, выдаткі на пабудову жалезных дарог, портаў і г.д. зусім не пакрываюцца даходамі з таго невялічкага гандлю, які Англія вядзе са сваімі калёніямі. Адно толькі гандаль яе з б. Расіяй у некалькі разоў перавышаў гандаль з усімі яе калёніямі. Пераважная большасьць ангельскіх калёніяў не . . . надаецца таксама і для каланізацыі. І зусім зразумелым стане абурэньне Гобсона, які кажа — „як мог брытанскі народ дазволіць, каб яго ўцягнулі ў такую нявыгодную камбінацыю." Наагул Гобсон уважае, што імпэрыялістычная палітыка Англіі пасьля 1870 году была акрэсьлена шкоднай для інтарэсаў ангельскай нацыі. Валаданьне Англіі шматлікімі калёніямі можна вытлумачыць толькі тым, што пры захапленьні іх інтарэсы народу зусім ня браліся пад увагу.

З калёніяў карыстаецца толькі нялічныя групы ангельскага грамадзянства,— гэта перадусім буйныя фірмы, занятыя вытварам ваенных матарыялаў ды буйныя фінансісты. Апошнія, каб здабыць большыя зыскі, чым на сваей бацькаўшчыне, укладаюць свае капіталы ў калёніі, а для гвараны сваіх зыскаў выкарыстоўваюць мілітарную сілу ўсяе свае дзяржавы. Цяжар-жа выдаткаў на ўтрыманьне гэтае мілітарнае сілы падае на увесь народ.

Аналёгічная справа ёсьць бязумоўна і з іншымі мэтраполіямі. Засяг Японіі ў жыцьцё народаў Кітаю, справа Шанхаю, утварэньне „незалежнай" |пад абаронай японскіх кулямётаў!| Манджурыі,— таксама ня ёсьць чымсь іншым, як толькі цаною людзкіх і матарыяльных ахвяраў свае нацыі забясьпечыць высокае апрацантаваньне капіталаў „радзімых" капіталістаў.

Наагул трэба прызнаць, што прычыны, якія выклікаюць зьвярыную барацьбу адных нацый з другімі, у выніку чаго зьяўляюцца нацыі пануючыя і паняволеныя, заўсёды вельмі нізкае пробы. Паняволеньне нацый дае карысьць толькі невялічкім людзкім групам і, зьяўляючыся цяжкім ярмом для нармальнага ўсебаковага разьвіцьця гэтых нацый, стае адначасна страшным бічом для працуючых усяго людзтва. Працоўныя пануючых нацый мімавольна ўцягіваюцца ў арбіту чыннасьці сваіх капіталістычных клясаў |у адносінах да паняволеных

народаў|,мілітарызуюцца і гэтым самым адцягваюцца ад свайго безпасрэднага прызначаньня - абароны сваіх клясавых,і агульна людзкіх,інтарэсаў.

М - н.

.-.-.

## Ў 70-я УГОДКІ БЕЛАРУСКАГА САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ДРУКУ.

1863 год на Беларусі застанецца ў памяці стагоддзяў.Папершае - гэта быў год вялікіх надзей і чаканьняў,а па-другое - адважнай спробы вызвальнага змаганьня.Гэты год мае вялікае значэньне ў гісторыі разьвіцьця беларускай нацыянальнай і сацыяльнай сьвядомасьці.

Яшчэ не ўстаноўлена напэўна,калі - ў канцы 1862 ці то на пачатку 1863 календарнага году - пачалі зьяўляцца на сьвет невялікія адбіткі ў беларускай мове,друкаваныя ў відзе адозваў-праклямацыяў, пад агульнай назваю "Мужыцкая Праўда".Гэта была першая беларуская сацыялістычная часопісь, першая часопісь ў беларускай мове наагул!Колькі ўсяго выйшла нумароў - нямаведама,захавалася толькі сем,якія зьяўляюцца вялікім помнікам нашай мінуўшчыны.

Рэдактарам і выдаўцом "М.Пр."быў Кастусь Каліноўскі, - Яська Гаспадар з-пад Вільні, як падпісваўся ў "Муж.Пр.", - чалавек асьвечаны і сільнай волі.Меў навуковаю годнасьць кандыдата адміністрацыйнага права пецербургскага універсытэту.Мог заняць высокую пасаду дзяржаўнага урадоўца ў царскай Расіі.Але пакінуў гэта.Рэшыў служыць свайму народу.Вярнуўся на бацькаўшчыну,адзеў сярмягу і пайшоў на вёску, ў народ,ў асяродзьдзе запрыгоненага сялянства,дзе прабыў аж тры гады,вандруючы з месца на месца,ад хаты да хаты,як апостал новай праўды.Кароткі зьмест свайго навучаньня падаў у часопісі "Мужыцкая Праўда".

Але нельга уважаць,што ўсе нумары "М.Пр." належаць пяру Каліноўскага.Былі і іншыя супрацоўнікі як -Фэлікс Тамашэўскі і Мацей Пятроўскі.Ім належыць між іншым,аўтарскае права шостага нумару. Асаблівую ўвагу трэ зьвярнуць таксама на апошні - сёмы -нумар. Апісваюцца ў ім здарэньні,якія адбыліся,калі ўжо Каліноўскі ня мог актыўна праявіцьсвае дзейнасьці: быў зьняволены ў вастрозе,або мо ня быў ужо і сярод жывых.За сваю дзейнасьць Каліноўскі быў засуджаны рускай уладай на кару сьмерці.Акт прыгавару быў выканаваны 7|19|III.1864 г.ў Вільні,на Лукішскім плацы.

Галоўны зьмест"М.Пр." ёсьць гэткі:-1.Загрымiць наша праўда!- 2.Народ наш быў калісьці вольны!- 3. Каб і мужык быў чалавекам волбным!- 4.Не народ для ўлады,а ўлада для народу!-5.Будзе вольнасьць.-Рабеце так,як вам сумленбне кажа!- Ідзеце там,дзе дамагаюцца волі і праўды!

Як можна бачыць,мужыцкая праўда Каліноўскага ня толькі назва часопісі,яна мае глыбейшае значэньне : зьяўляецца сыстэмаю навучаньня аб волі,роўнасьці і справядлівасьці.

Яшчэ вялікі наш гуманісты Францішак Скарына вучыў, што ёсьць дзьве праўды : адна праўда - боская,а другая - жыцьцёвая.Але абедзьве праўды маюць адну этычную мэту - служыць дабру паспалітага люду. Кожная праўда,дзеля гэтага,мае асьведчыцца ў жыцьці, ў добрых паступках.У практычным жыцьці ня мае значэньня ў каго якая праўда,- рэлігійная,ці філязофская , хто якой веры ці-то бяз веры,- значэньне мае толькі добрае паступованьне,якое ў сваім выніку вядзе да пашырэньня добрых звычкаў, а тым самым і да збольшаньня магчымасьцяў зьдзейсьненьня дабра паспалітага люду.

Этычная мэта служэньня дабру паспалітага люду лягла ў аснову разьвіцьця беларускага гуманізму. Скарынінскім шляхам ішлі ўсе выдатнейшыя прадстаўнікі беларускае культурна-грамадзкае думкі: Сымон Будны,Васіль Цяпінскі,Мікола Радзівіл,Леў Сапега - ў старым часе, Ян Чачот,Баршчэўскі,Рыпінскі,Марцінкевіч -ў новым часе.Пашыралі асьвету і добрыя звыкі,гэткім спосабам служылі дабру паспалітага люду.

Але інакш ўзіраўся на справу Кастусь Каліноўскі . Ен значна паглыбіў і сканкрэтызаваў ідэалы беларус - кага гуманізму.У яго навучаньні адна ёсьць толькі праўда - жыцьцёвая,праўда з жыцьця і для жыцьця - ня жыць з чужой крыўды.Гэта ёсьць праўда - справядлі - васьць.Дзеля гэтага,там дзе няма справядлівасьці,няма і праўды.Справядлівасьць - крытэры й жыцьцёвай праўды.

Спасьцерагаючы ўзаемаадносіны паміж паасобнымі станамі ў супольстве,- як і хто з чаго жыве,- Каліноўскі прыйшоў да высноўку,што адны толькі сяляне-мужыкі жывуць бяз крыўды іншых: ні над кім не глу - мяцца і не займаюцца ніякім зьдзірствам.Інакш жывуць паны.Абшарнікі праз цівуноў і камісараў глумяцца над мужыком, а цар з санатам нарабілі розных канцэлярый,прысуустваў,пасадзілі ў іх шмат розных пісароў пасрэднікаў,асэсараў і ўсё дзеля таго,каб дзерці скуру з мужыка,цягнуць падаткі,браць рэкрута. Якаяж тут справядлівасьць,калі ўсё цяжкае ўзвальваюць на мужыка,калі з яго дзяруць паошнюю кашулю,б'юць іпла каць не даюць?!

Калі этычная мэта,паводле Скарыны,-- служэньне дабру паспалітага люду,то,паводле Каліноўскага,глум

і здірства паноў над мужыкамі выключаюць этычную мэту: несправядлівасьць ніколі ня можа стаць справядлівасьцю,а без справядлівасьці ня можа быць і дабра. Паны,застаючыся панамі,ня могуць служыць дабру паспалітага люду.Для дабра паспалітага люду адна ёсьць толькі праўда - мужыцкая,бо яна справядлівая. Дзеля гэтага,хто хоча служыць дабру,павінен ісьці з мужыкамі.Калі паны ўзапраўды хочушь дабра для мужыкоў, то павінны зрабіць па справядлівасьці - перастаць быць панамі,а калі не,то яны ёсьць ворагамі мужыкоў.

Народ наш калісьці быў вольны і багаты.Ня помняць гэтага ўжо ані бацькі нашы,ані дзяды.Але аб гэтым ёсьць напісана ў старажытных кнігах,дзе кожны можа прачытаць.Паншчыны тагды ня было ніякай.І няма чаго дзівіцца: было шмат лесу,поля колькі хочаш,а людзей мала,кожны мог сабе выцерабіць кавалак лесу,паставіць хату і загаспадарыць. Мінулі тыя часы.Насталі войны. Адны ішлі ваяваць,а іншыя-працаваць.Хто пайшоў на вайну,дастаў шляхэцтва,стаў панам. Хто-ж працаваў ля зямлі,той застаўся мужыком.Згэтуль павялася і паншчына. Пасьля цар маскоўскі падбіў наш край, завеў свае парадкі,- яшчэ больш замацаваў паншчыну ды ў супалцы з панамі гняце наш народ.

Чалавек мае ўжо такую натуру,што калі нічога ня ведае,то нічога ня хоча мець,а калі даведаецца,то хоча зразумець і атрымаць усё,што яму належыць. Нявольнік думае,што ён створаны быў толькі для таго, каб служыць паншчыну і быць нявольнікам. Ён так думае,бо нічога ня ведае,а таму і нічога мець ня хоча.Але зьмяніліся ўжо тыя часы,калі мужык нічога ня ведаў і нічога не хацеў. Даведаўся мужык,што ўсе людзі паходзяць ад вольных продкаў,значыць і яго продкі былі калісьці вольнымі людзмі.А чалавек вольны - гэта калі ён мае кусок свае зямлі,за якую ні чыншу ня плаціць, ні паншчыны ня служыць,калі і плаціць якія-небудзь падаткі, то не на царскія забавы,а на патрэбнасьці ўсяго народу,калі і дае рэкрута,то не на тое, каб нямаведама куды і нямаведама за што ісьці ваяваць,а толькі на тое,каб бараніць свой родны край,калі нападзе непрыяцель.

Жывучы пад уладаю маскоўскага цара,няма што спадзявацца ні на паноў,ні цара.Ўсе царскія маніфэсты - адна толькі хітрасьць,каб ашукаць народ.Не маніфэстаў,а вольнасьці нам трэба! І то вольнасьці не такой, якую цар з панамі хоча даць,але якую мы самі,мужыкі, паміж сабою зробімо.Ні ад кога няма чаго нам ждаць, бо толбкі той жне,хто пасеяў.Дык няхай кожны вясковы дзяцюк сее поўнай рукою,хай не шкадуе свае працы,каб і мужык быў чалавекам вольным!

Няма куска зямлі на сьвеце,дзеб усе людзі былі як адзін справядлівыя,каб не хацелі жыць з чужой

крыўды.Для таго,каб была справядлівасьць і праўда на сьвеце,а злыя людзі не зьбыткаваліся і крыўды не рабілі іншым,патрэбна ўлада,што бярэ падаткі,робіць школы,навучае кожнага жыць па парўдзе,становіць суд. А калі гэта не памагае і надалей чыніцца несправядлівасьць, то стварае войска і гэткім спосабам сьцеражэ кожнага ад ліха і здзірства.Дык вось на што патрэбна ўлада.Добрая ўлада павінна дбаць аб шчасьці людзей,слухаць народ і ўсё рабіць так,як лепш народу,каб ніхто з нікога ня сьмеў дзерці.І ня дзіва; бо не народ для ўлады,а ўлада для народу!

Каб здабыць зямлю і волю,ўсе мужыкі павінны ўзяцца за рукі і трымацца разам.Пакуль мужык здужае трымаць касу і сякеру,ён заўсёды патпрапіць бараніць свайго і ні ў кога ня будзе прасіць ласкі. І будзе вольнасьць тагды ў нашым краі!

Мінула ўжо тое,калі здавалася,што мужыцкая рука надаецца толькі да сахі.Настаў ужо такі час,калі мужыкі самі могуць пісаць,і то пісаць аб праўдзе справядлівай.Дык няхай загрыміць наша праўда і як маланка праляціцца сьветам!Няхай пазнаюць,што мужыкі ня толькі кормяць сваім хлебам,але яшчэ і вучаць сваей мужыцкай праўдзе.

Гэткая ў асноўных рысах ёсьць навучаньне Кастуся Каліноўскага.Лёгка заўважыць,што ў яго этычнай сыстэме займае вызначнае месца праблема веданьня: ведаць,каб хацець!Сяляне на ўласным жыцьцёвым досьведзе навучаюцца ведаць,што значыць праўда і што значыць крыўда.Апазнаўшы праўду,ня могуць больш ужо цярпець,бо цярпець зло - гэта ўсё роўна,што патураць злу,нават і пасыўна,але быць зучасьненым на не справядлівасьці.

Усё цячэ,усё мінае.Нязменнай застаецца толькі праўда - справядлівасьць,найвялікшы закон людзкой маралі,які зьяўляецца махавіком гісторыі,- ня жыць з чужой крыўды!Гэту праўду маюць сяляне. Сялянства, паводле Каліноўскага,зьяўляецца носьбітам этычнае праўды - справядлівасьці ў жыцьці супольства. Згэтуль асаблівая роля сялянства ў гісторыі: быць волатам,які зьнішчыць людзкую крыўду і завядзе лад новага жыцьця,пры якім ужо ня будзе ні цароў,ні паноў,ня будзе ні глуму,ні зьдзірства,а ўсім людзям будзе дадзена роўная воля і праўда!

У гэтым своеасаблівым сялянскім мэсыянізме крыніца натхненьня ў вызвольным змаганьні і вера ў перамогу.З намі праўда! З намі справядлівасьць!

Мужыцкая праўда Кастуся Каліноўскага загрымела па ўсім абшары Беларусі ад Лавацы аж да Мухаўца - там,дзе жыве беларускі народ.Шляхам Каліноўскага пайшоў Францішак Багушэвіч,Ян Пяслухоўскі і ўсе нашы народнікі.Беларускае сацыялістычнае народніцтва

ачыць у Каліноўскім свайго вялікага пачынальніка.

Аднак,нельга не зрабіць адно заўважаньне: праўду – справядлівасьць маюць ня толькі сяляне,але ўсе працоўныя,ўсе,хто ня жыве з чужой крыўды.Таму не адны сяляне,але і работнікі,і працоўная інтэлігенцыя зьяўляюцца гэроямі гісторыі.Ім,працоўнаму народу,належыць будучыня!

Т.

-:-:-

-:-:- -:-:-

ТАВАРЫШУ

Хаўтурнага маршу крывіцкія нівы не гралі,
калі цябе,брацьце, ў далёкай магіле хавалі –
і помстай вінтоўкі-сяброўкі у неба ня білі,
калі ты,таварыш,спачыў у глыбокай магіле.

Сяброў грамада не праводзіць цябе на магільнік–
весьць толькі аб сьмерці тваей далятае да Вільні.
Для собскай карысьці ты нашы рады не пакінуў –
ты паў,як змагар,за Працоўных сьвятую Краіну.

Лунаў ты на поўнач апошняю думкай крылатай,
дзе выла віхура і сьнегам заносіла хаты –
і сьніў ты,што сонца працоўным у роўнае славе
усходзячы,блескам свабодныя грудзі крывавіць.

А ў Краі Крывіцкім з сьвятой Вызваленьня зарою
рука пралетара сплывае мужыцкай крывёю.
Мы будземо помніць.Няхай там над тою граніцай
табе Беларусі ясьнейшая доля прысьніцца –

Ты больш не пачуеш,таварыш– у роднае хаце
ня будзе сялянін Свабоду-зару праклінаці.
Як сына матуля – Працоўных Краіна сьвятая
твой дух непакорны удзячнай сьлязой прывітае.

А.Д.

*

* *

Па вуліцы ходзіць як пяны
і ўдыхае вячэрнія змрокі –
глядзіць на вясёлыя твары,
на чырвань вячэрніх ваблокаў.

Крычаць штосьці рэклямы,плякаты,
ў агні патанулі бар,кіно...
Зьдзівіўся на шыбу пекарні –
вачыма зядае вітрыны.

Прыходзіць і лаецца з жонкай -
нат маці яе ўспамінае...
Ад горычы,болі,што села у горле
у хаце пекла стварае.

Сьмяецца і плача.Бе нат дзяцей -
што ня могуць галодныя спаць.
Забірае з сьцяны пальто -
бо сядзець ня можа у хаце...

Па вуліцы шпаркія таксы
праносяцца ў дыме бэнзыны.
Існуюць шчасьлівыя людзі
што жыцьця хапаюць хвіліны...

У едкім ён дыме сядзіць
і чуе ён з вуснаў сьмяротных:
што 40 мільёнаў на сьвеце
такіх як і ён безработных.

З.

-:--:-

ТРЫНАЦЦАТЫЯ ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ.

Слуцкае паўстаньне ёсьць вялікай беларускай гістарычнай падзеяй.15-16 лістапада 1920 году жыхары Случчыны праз сваіх бэзпасрэдна выбраных прадстаўнікоў заявілі,што хочуць жыць у Вольнай і Незалежнай Беларусі.Ня будзе лішнім тут сказаць,што безпасрэднае выяўленьне волі Беларускага народу да незалежнасьці мела месца толькі на зьездзе Случчыны,бо ранейшы Усебеларускі Зьезд у 1917 г.прадбачаў фэдэратыўную лучнасьць Беларусі з Расеяй.Пасьля Усебеларускага Зьезду і зьезду Случчыны балей падобных зьездаў не было.Воля Случчыны да незалежнасьці мае для нас тым вялікшае значэньне,што яна была выяўлена нятолькі дэкляратыўна на паперы,але што для правядзеньня яе у жыцьцё быў падняты сьцяг аружнага паўстаньня.

Мы,сучаснае беларускае пакаленьне,нятолькі з прызнаньнем павінны схіліць свае голавы перад гэраізмам Случчакоў,але адначасна мусімо ўсьведаміць сабе яшчэ,якія арганізуючыя сілы дзеялі тагды на Случчыне,дзякуючы каторым Слуцкае Паўстаньне па справядлівасьці зьяўляецца беларускім маяком вызваленьня. Нам ведама,што тагачасныя рэвалюцыйныя настроі на Случчыне стараліся выкарыстаць розныя спэкулянцкія палітычныя ўгрупаваньні для сваіх мэтаў.

на зьезд Случчыны зьявіўся прадстаўнік палянафільскай т.зв.Беларускай Найвышэйшай Рады,п.Жаўрыд,які меў ад яе найшырэйшыя паўнамоцтвы,як:абвяўляць мабілізацыю,назначаць і зацьвярджаць улады і г.д.Прыехаў таксама на зьезд і ўпаўнаважаны прадстаўнік ад ген.Булак-Балаховіча,кап.Самусевіч.Апрача таго на зьездзе была рэакцыйная з расійскім ухілам група д-ра Паўлюкевіча.Усе гэтыя прадстаўнікі вышэйазначаных рэакцыйных групіровак хацелі Зьезд Случчыны павясьці ў карысным для сябе напрамку.Кожны з іх Беларускаму Народу абяцаў залатыя горы і хваліўся сілаю сваіх арганізацыяў.Так прадстаўнік Найвышэйшае Рады запэўняў помач Польшчы,прадстаўнік Балаховіча абяцаў падтрыманьне зброяй і,ў разе патрэбы,войскам.Група Паўлюкевіча таксама апіралася на вайсковую сілу Балаховіча і падтрыманьне расейскага к-ту Савінкава.Ня гледзючы на ўсё гэта і на тое,што рэвалюцыйная Случчына ня мела ў сябе ніякае зброі,Случчакі ўсёж-такі не пайшлі пад каманду ні Найвышэйшае Рады,ні Балаховіча.Зьезд выбраў Раду Случчыны,якой і даручыў усю паўнату ўлады. Спробы кап.Самусевіча арганізаваць у Случчыне балахоўскі полк пацярпелі няўдачу,а прадстаўнік Найвышэйшае Рады нават не адважыўся выконваць свайго мандату - г.зн.абвяўляць мабілізацыю і назначаць улады.Такі энэргічны адпор,які атрымалі вышэйуспомненыя групы на Случчыне,не стаўся сам сабою.У Случчыне тагды ўжо даўжэйшы час праводзіла арганізацыя Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў.Гэта апошняя карысталася вялікім посьпехам у беларускай масе,а прадстаўнікі яе мелі дамінуючы уплыў на зьездзе.Група сац.-рэвалюцыянэраў на зьездзе перамагла ўсе іншыя групы.Прадстаўнікі Працоўнае Случчыны давяраліся толькі партыі эс-эраў і, такім чынам,Рада Случчыны ў большасьці свае складалася з сяброў гэтае партыі,а старшынёю Рады быў выбраны с.-рэвалюцыянэр,У.Пракулевіч.

Беларускія сац.-рэвалюцыянэры пайшлі ў паўстаньне з сваімі лёзунгамі.Яны рашуча і цьвердна заўсёды заяўлялі,што трудавым масам Беларусі няма за што болей змагацца з бальшавікамі,як толькі за права будаваньня у сябе такога сацыяльна-палітычнага ладу,які гэтыя трудавыя масы знойдуць для сябе найбольш адпаведным,і што Партыя Сац.-Рэвалюцыянэраў ніколі не дапусьціць,каб рэакцыйныя групы маглі Слуцкае паўстаньне увясьці ў рэчышча барацьбы капіталу з працаю.Гэты лёзунг праз ўвесь час і праводзіўся ў Слуцкім Паўстаньні.Толькі дзякуючы лёзунгам Б.П.С.-Р. Слуцкае паўстаньне аказалася наскрозь беларускім і ў галіне сацыяльнай рэвалюцыйным.

Мы,маладое пакаленьне Працоўнае Беларусі,адзначаючы 13-я угодкі Слуцкага Паўстаньня са ўсею сьвядомасьцю можам сказаць:Слава Слуцкім Паўстанцам і іх павадыру - Беларускай Партыі Сац.-Рэвалюцыянэраў!!

# Х р о н і к а.

Беларуская прэса расьце.---Апошнімі часамі беларуская прэса значна павялічылася. Пачалі выходзіць у Вільні аж дзьве часопісі ў беларускай мове, гэта--"Беларуская Газэта" і "Новы Шлях". Аднак, як гэта ня сумна, цяперашні рост беларускае прэсы наагул ня ёсьць адначасным ростам незалежнага беларускага друку. Нельга "Беларускую Газэту" назваць беларускім незалежным органам, калі для яе найважнейшай справай ёсьць дасягненьні савецкай дыпляматыі або савецкага будаўніцтва, а ня жыцьцёвыя інтарэсы беларускіх працоўных масаў. Такое захопленьне савецкімі дасягненьнямі Заходняй Беларусі ўжо дорага каштуе...а беларускі мужык як раней гараваў, так гаруе і цяпер.

Ня ў меншай меры старaецца праводзіць чужацкія ўплывы і час. "Новы шлях". Гэтая часопісь імкнецца перанесьці на беларускі грунт гітлерызм, забываючы аб тым, што Гітлер, падшываючыся пад сацыялізм, працуе на карысьць нямецкае буржуазіі, а беларускім насьлядоўцам Гітлера не застанецца нічога іншага рабіць, ня маючы свае буржуазіі, як толькі працаваць на карысьць чужой.

Карыстаючыся з нагоды мусімо сказаць, што чужацкія ўплывы праводзяць ня толькі "Беларуская Газэта" і "Новы Шлях", як і палянафільскі "Родны Край", але ад гэтых уплываў ня есьць вольна і такая здавалася-б незалежніцкая часопісь, як "Беларуская Крыніца". Апошняя зьяўляецца незалежнай толькі датуль, пакуль справа не датычыць Літвы. У тых-жа выпадках, калі беларуская справа ўваходзіць у калізію з справай літоўскай, то тагды "Бел. Крыніца" маўчыць, як ў рот вады набраўшы. За ўвесь час свайго існаваньня гэтая часопісь ані разу ня выступіла супроць тае шалёнае агітацыі, пры помачы якой літоўскія шавіністычныя колы хочуць пераканаць увесь сьвет, што Віленшчына і Горадзеншчына павінны належаць Літве. Больш таго---часта-густа ў "Бел.Крын." сустракаецца рубрыка "З Незалежнай Літвы", скуль ясна відаць, што для "Бел. Крыніцы" існуе і "Залежная Літва". Якая-ж можа быць іншая "Залежная Літва", як ня тая самая Віленшчына і Горадзеншчына, якіх так заўзята дамагаюцца літоўскія нацыяналістычныя колы?!

Бел. Студ. Саюз у Вільні выступае з АБСА? З Прагі паведамляюць, што быццам БСС мае замер выступіць з агульна-беларускай цэнтралі студэнскай АБСА. Што такія тэндэнцыі сярод віленскага беларускага студэнства могуць быць, гэта не падлягае сумліву, але чаго з гэтым крыцца і не паведаміць аб гэтым сваю Цанатралю?!

Выдавецкая справа "Золаку".-Рэдакцыя час. "Золак" гэтым паведамляе сваіх чытачоў, што перарыў ў выдаваньні часопісі стаўся з прычын ад рэдакцыі незалежных.

---

Рэд.-выдавец А.Аніська.
Адрэс рэдакцыі: Вільня, Тракт Баторага, 10-6.